Šlach Biełaruskaha Studenta

MIESIAČNY DADATAK DA „ŠLACHU MOŁADZI".

№ 4 (8) Vilnia, Krasavik-Maj 1939 h. Hod II.

# Na biełaruskim adradženskim šlachu

Prajšoŭ užo hod, jak paŭstaŭ naš „Šlach Biełaruskaha Studenta" j pačaŭ pravodzić svaju pracu ŭzmacoŭvajučy biełaruski adradženski ruch. Radziŭsia naš časapis u haračy čas dla studenta,u čas pieradekzaminacyjnaj padhatoŭki j u čas ahulna-biełaruskaha niazvyčajna ciažkoha pałažeńnia. Heta adnak jšče bolš padčyrkivała, što j u ciažkich abstavinach razam z usim Biełaruskim Narodam pa šlachu adradžeńnia ŭparta jdzie i biełaruskaje studenctva. Vyjšli my biaz šumu j pustoha kryku, ale z ćviordaj pastanovaj pracavać dla pieramohi Praŭdy j Spraviadlivaści. Vyjšli my spaŭniać svoj śviaty nacyjanalny abaviazak.

Za apošni čas mnoha nastała źmienaŭ. Fizyčnaja siła razhulałasia nad śvietam. Silnyja hetaha śvietu zabyvajučysia časta ab svajoj minuŭščynie ździekujucca nad słabiejšymi. Dla prykładu chopić uspomnić choć-by tolki trahedyju Zakarpackaj Ukrainy. Štykami j harmatami zavodzili j zavodziać „kulturu" Italjancy ŭ Abisynii, Japoncy ŭ Kitai, a z ich biaruć prykład i inšyja.

Dyk kudy-ž imkniecca naš śviet?— u nie adnaho paŭstaje pytańnie. Ci-ž sapraŭdy postup pojdzie ŭ kirunku hvałtu silniejšaha nad słabiejšym, siły nad spraviadlivaściaj?

Zastanaviŭšysia nad hetym pytańniem, vypadzie adkaz admoŭny. Panavańnie armaty j štyka jość tolki aznakaj času. Zakony spraviadlivaści jość viečnyja, nikoli niepieramožnyja. I nia raz moža jšče hvałt i kryŭda ŭstrasianuć śvietam, ale z hetaj katastrofy, z taho viru zmahańniaŭ, zrodzicca novy čałaviek, čałaviek Praŭdy j Spraviadlivaści.

Heta niaźbitaja Praŭda ŭzmacoŭvaje j nas Biełarusaŭ, našyja imknieńni da lepšaje budučyni, katoryja musiać ździejśnicca. Tymbolš, što Biełaruski Narod nie zvažajučy na ŭsie niehadzi vybivajecca z biezdarožža, u jakoje sapchnuła jaho mačycha-historyja, na šlach poŭnaha svajho nacyjanalnaha adradžeńnia j niaŭrupnna jdzie napierad.

I my, biełaruskaja studenckaja moładź, siarod ciomnych siańniašnich dzion idziom hetym šlacham, idziom da lepšaje doli našaha Narodu!..

Razjaždžajučysia z universyteckich muroŭ na letnija kanikuły, pojdziem u narodnyja masy z žyvym i drukavanym biełaruskim słovam. Pojdziem ažyŭlać rodnyja nivy, kab jany krasavali, śpieli j dzravali!..

VIČ.

# У абліччы сучаснасьці

Напружаныя сучасныя часы з шалёным тэмпам здарэньняў і неспадзевак вытварылі атмасфэру няпэўнасьці й непакою. Яшчэ ня так даўнія перамены ў палітычным жыцьці паставілі Эўропу ў абліччы новых камплікацыяў, каторыя лёгка могуць давясьці да катастрофы.

Запраўды перажываем надзвычайныя часы — часы, якія ўвачох мараліста зьяўляюцца яскравым праявам дэмаралізацыі, аб якіх праўнік скажа, як аб паталёгіі міжнароднага права, а стратэг — як аб пярэдадні вялікай сусьветнай завірухі. Апошнія падзеі выказалі, як бязвартаснымі зьяўляюцца розныя гваранцыі й пакты з боку тых ці іншых дзяржаў, як пустымі былі ўсе абяцанкі магутных гэтага сьвету. Як пустыя сьвісткі паперы ляцяць дзяржаўныя ўмовы, а палітычныя ар'ентацыі некаторых дзяржаў паварочваюцца на 180°. Цень Макіавэляга з яго аслаўленай дэвізай „мэта апраўдывае сродкі" завіс над Эўропай.

Усе дасканала зразумелі, што толькі свая ўнутраняя сіла зьяўляецца дэцыдуючай у сучаснасьці й што гэтую сілу трэба вытвараць супольна ад самых падставаў.

Тыя, каторых апошнія палітычныя здарэньні загіпнатызавалі сваей дынамікай і адарвалі ад штодзенных натугаў, вяртаюцца на свае месцы, каб з падвоенай энэргіяй узяцца за працу, якая вядзе да ўзмацаваньня цэлага народу, за працу на кожным адрэзку грамадзкага жыцьця. Толькі сільны, споены высокімі маральнымі вартасьцямі народ патрапіць абараніць сваю пазыцыю, нават перад сільнейшым ворагам. Паглыбляньне й узмацняньне гэтых вартасьцяў ёсьць абавязкам кожнага сына вернага свайму народу.

* * *

Зbліжаюцца летнія канікулы і, як заўсёды, студэнцкая моладзь пакідае ўнівэрстытэцкія гарады, каб выехаць на заслужаны адпачынак. Аднак у гэтым годзе з моладзяй іначай. Ужо даўно з патосам зрэдагаваныя афішы гавораць аб праектаванай працы, якую мае вясьці падчас лета польская студэнцкая моладзь на нашых землях. Дзьве тысячы студэнтаў, з усіх унівэрстытэцкіх асяродкаў, мае прыехаць сюды для рэалізацыі сваіх палітычных мэтаў.

Гэты факт мусіць прамовіць да нас мацней ад розных гарачых лёзунгаў, мусіць прыпомніць беларускім студэнтам аб іх найбліжэйшых заданьнях перад сваім народам, аб сьвятым абавязку перад Бацькаўшчынай. Гэтыя летнія канікулы мусім правесьці ў падвоенай працы, мусім здабыцца на максімум высілку й энэргіі. Бязчыннасьць зьяўляецца праступкам.

Беларускага студэнта ня трэба вучыць розных агітацыйных мэтадаў і спосабаў навязаньня кантакту з нашым селянінам, Нам ня трэба перамагаць архаічнай панскай „выжшасьці," каб „зьнізіцца" да шэрай сьвіткі, каб пацісьнуць яго мазольную руку.

Мы зьяўляемся часткай тых, каторыя засталіся пад шэрымі саламянымі стрэхамі—яны нашыя браты, калегі сагнуўшыся ідуць

# Шануйма народныя скарбы!

*Гэй, родныя песьні! Вы ў суме і горы,*
*Ці ночка пануе, ці сівер дзьме зімны,*
*Для роднай зямелькі вы сьветлыя зоры,*
*Для роднага краю вы райскія гімны.*

*У вас адаб'ецца нядоля і доля,*
*Уздыханьні, што ходзяць з сахой і з сякерай,*
*І холад і голад, няволя і воля,*
*І ў будучнасьць ясну надзея і вера.*

*Я. Купала*

Кожная нацыя дбаючы аб сваё духовае разьвіцьцё, зварочвае вялікую ўвагу на мастацтва, у той ці іншай форме. І тут праяўляецца вялікая дбайнасьць аб песьню. Бо дзеж можа быць больш мастацтва?..

Песьня!.. Як, сапраўды, шмат гаворачае слова, як магутнае, хаваючае ў сабеаграмадную сілу, каторая патрапіць лагодзіць найбольш балючыя раны душы й сьціроўваць да найбольшых ахвяраў і натугаў. Бо-ж песьня, асабліва песьня народная, мае тую дзіўную моц — здольнасьць будзіць, мацаваць на сілах і лучыць. У нашых песьнях, як трапна, яшчэ прад вайной, аб іх сказаў наш пясьняр Янка Купала, у вышэй прыточаным вершы, адбіваецца ўсё жыцьцё й імкненьні да яснае будучыні.

Песьні, перад усім народныя, тварцамі якіх былі цэлыя пакаленьні на працягу доўгіх стагодзьдзяў, уплятаючы сюды ўсе праявы свайго духовага й творчага жыцьця, зьяўляюцца вялікім скарбам. Дзеля гэтага кожная нацыянальная адзінка, творчага й свабодалюбівага народу, любіць, зьбірае і захоўвае сваю мінуўшчыну, свае песьні, а так-жа ўзоры народных тканінаў, орнамэнтаў, прыказкі, апавяданьні, легенды, народныя звычаі, скокі і г. д., плятучы з іх жывую гісторыю, жывую тканіну свайго несьмяротнага жыцьця.

Праца сяньняшняга дня — гэта й ёсьць ператвараньне жывое мінуўшчыны ў жывую будучыню народу. Сяньня кожнаму, хто не засьлеплены ўласным шовінізмам, хто патрапіць праглянуць праз заслону ілжы й ашуканства, песьня наша будзе доказам жывучасьці й сілы Беларуса, ня згубіўшага, ня гледзячы на ўсе гістарычныя перавароты й цяжкія ўмовы жыцьця, свайго этнографічнага аблічча. Яна прамовіць да слухача лепш, чым грубыя томы часта сфальшаванай гісторыі. Праф. Прыходзько кажа: „Мала знаю гісторыю Беларусі, але некалькі беларускіх песьняў гавораць мне болей, як вялікі том гісторыі“.

Песьня наша адзначаецца надзвычайнай мэлёдыйнасьцю, лірызмам у сваіх матывах, паэтычнай задумлівасьцю й прыемнай музычнай красой. Праўда, матывы нашай песьні крыху манатонныя й пераважна журліва-сумныя, але гэтая манатонія не стварае няпрыемнага ўражаньня, а журліва-сумныя яе настроі выражаюць абставіны, у якіх разьвівалася й разьвіваецца нашае жыцьцё.

Сяньня, калі наша песьня, дзякуючы кампазытарам, адзяецца ў культурную форму, калі ўжо зьнікае забабоннае недаверра да яе ў чужынцаў, трэба аддаць належную падзяку тым, што ахвярна працавалі на беларускай песенна - музычнай ніве. І тут у першую чаргу гэтая падзяка належыцца ў Вільні таму, хто праз 15 гадоў зьбіраў песьні й распаўсюджваў сваімі канцэртамі яе красу,—Паважанаму Рыгору Раманавічу Шырме, а таксама ўсім кампазытарам, за іх ахвярную й безінтэрэсоўную працу, і слаўнаму нашаму сьпеваку Міхалу Забэйдзе-Суміцкаму шлём нашае шчырае дзякуй.

Але на гэтым не канец. Заданьне наша далёка ня выпаўнена. Народны скарб нявычарпаны. Дзеля гэтага, каб разьвіць мастацтва, трэба быць у сувязі з вёскай, адкуль, як із крыніцы, б'е й расходзіцца твор нашага народу — песьня, а так-жа творы з іншых галінаў народнага мастацтва.

Дык зьбірайма, запісвайма й шануйма свае беларускія песьні, якія цяпер чужынцы часта прысвойваюць сабе, перакручваючы й перарабляючы іх на свой лад. Шануйма й бярэм у сваю апеку таксама іншыя народныя багацьці!

*З.*

---

за плугамі, гэта нашыя бацькі цягнуць цяжкую лямпку жыцьця. На нас, беларускай моладзі, ляжыць у першую чаргу сьвяты абавязак працы для тых, з каго выйшлі.

А заданьні гэтыя вялікія й цяжкія.

Мусім узбудзіць стойкасьць і сьведамасьць у беларускай народнай гушчы, узмацаваць сягоньня нацыянальныя амбіцыі, падняць яе маральны й інтэлектуальны ўзровень, мусім з большымі натугамі контынуаваць працу распачатую піонэрамі беларускага адраджэнскага руху. Ад нас самых залежыць нашая будучыня. — Нашая праца й высілкі памогуць задэцыдаваць кар'ерна аб далейшым лёсе Беларускага народу.

Наш народ, які спатыкае так многа ашуканстваў і расчараваньняў, да якога зьвярталіся чужыя дзейнікі толькі па тое, каб выкарыстаць для сваіх эгаістычных мэтаў, з недаверрам адносіцца да ўсялякіх чужацкіх падшэптаў.

Зусім інакчай адносіцца ён да беларускай студэнцкай моладзі, якая ёсьць для яго блізкай, роднай, якую выслаў ён здабываць сьветач навукі. Толькі мы маем доступ да сэрца нашага народу, толькі да нас адносіцца ён з даверрам і любоўю.

Мусім выкарыстаць нашую перавагу над іншымі і па прыездзе на вёску распачаць узвоеную інтэнсыўную працу для дабра нашага Народу й Бацькаўшчыны.

*Ірк.*

---

# Гістарычна-эканамічны шлях промыслу

Промысел у нашых часох лічыцца падставай гаспадарскага жыцьця. Прамысловасьцю мераюць сяньня эканамічную сілу кажнага краю. У нас чужыя сілы ня спрыяюць разьвіцьцю промыслу й дзеля таго беларускія адраджэнцы з кажным годам штораз большую ўвагу зварочваюць на гэтую аснаўную галіну гаспадаркі. Уважаем, што за разбудову роднага промыслу ў першую чаргу павінна ўзяцца моладзь, поўная энэргіі й ахвоты да працы. Многія, замест таго, каб па скончэньні навукі або й раней прадавацца ворагу за няшчасны горш, мусяць сьціраваць свае сілы й здольнасьці на самастойны разьвой беларускага промыслу. У сувязі з гэтым неабходным ёсьць бліжэйшае знаёмства з промыслам наагул, а між іншым з ягонай мінуўшчынай, з помаччу чаго лягчэй зразумець ягоную першарадную ролю ў сучаснасьці й тыя варункі, у якіх ён цяпер апынуўся. Дабро нашага народу проста вымагае ад нас мацней зацікавіцца праблемай промыслу. Але мала таго, трэба нам разьвіць у сабе нават замілаваньне да прамысловай дзейнасьці.

Згодна з такім настаўленьнем, дарэчы будзе прадставіць сабе хоць у агульным нарысе важнейшыя фазы, праз якія прайшоў ужо промысел у сваей гістарычнай эвалюцыі.

Перш аднак трэба адзначыць, што промысел ня мае свайго точнага азначэньня. У паняцьце промыслу ўкладваецца вузейшы або шырэйшы зьмест. І ў будзённай гутарцы й у навуковым языку ўжываецца тэрмін промыслу ў розных значэньні й часта пад рознымі назовамі, як рамясло, мануфактура.

Да промыслу можна падходзіць з розных пунктаў гледжаньня — эканамічнага, грамадзкага, праўнага, і ў залежнасьці ад такога ці іншага становішча - ўсяляк яго азначаць. Згэтуль і вынікае тое, што рознага характару азначэньні промыслу часта не пакрываюцца з сабой, прыкл. найбольш ня сходзяцца азначэньні промыслу эканамічнае й праўнае. Напрыклад, польскае права прамысловае абыймае так-жа рамясло, гандаль і некаторыя іншыя віды фаховай працы, каторыя ў штодзенным жыцьці здаюцца нам далёкімі ад промыслу ў звычайным значэньні гэтага слова.

У сэнсе эканамічным, промысел агульна абазначае дзейнасьць чалавека, якая ператварае й датарноўвае да людзкіх патрэб дары прыроды. Маем тут на думцы перарабку й матар'яльную й фармальную сырца.

Развой промыслу залежыць ад поступу тэхнікі ды йдзе ў пары з разьвіцьцём культуры наагул. Дзеля таго, што чалавецтва ўсьцяж ідзе напарад, дык і промысел прайшоў доўгую дарогу. Вучоныя дзеляць яе на розныя этапы: адныя на тры — хатні промысел, рамясло й фабрычны промысел, другія на пяць: хатняя праца, вандроўны промысел у разуменьні наёмнай працы, рамясло, хатні промысел і ўрэшце фабрычны промысел, іншыя на шэсьць. Колькасьць этапаў ня ёсьць аднак рэчай істотнай, залежыць гэта ад тых ці іншых падставаў падзелу.

На ўклад прамысловых адносінаў у розных эпохах уплывалі розныя дзейнікі, як размнажэньне патрэбаў чалавека, якое змусіла яго да грамадзкага падзелу працы, гушчыня насельніцтва, поступ цывілізацыі і г. д.

Не падлягае сумліву, што першай фазай у разьвіцьці промыслу ёсьць хатняя праца. Перавага яе ў гаспадарскім жыцьці сягае аж да пачаткаў сярэдніх вякоў. У тым часе хатняя праца заспакойвае галоўным чынам патрэбы якойнебудзь аднэй сям'і і аднэй гаспадаркі ў тагачасным разуменьні. Каждая сям'я, якая абыймае так-жа нявольнікаў, становіць асобную гаспадарскую адзінку. Такой адзінкай зьяўляецца — як двор багатага рымляніна, таксама і пана сярэднявечнай вёскі, з ягонымі падданымі. Падзел працы ў сям'і спачатку быў зусім прымітыўны: апіраўся толькі на розьніцы плоці. З паяўленьнем нявольніцтва наступае далейшы падзел хатняй працы, ужо ў залежнасьці ад фізычных сілаў і выробленай спраўнасьці. Праца нявольнікаў дае магчымасьць вырабляць большую колькасьць прадуктаў і гэтым самым пабуджае развой вымены вырабаў паміж паасобнымі гаспадарамі.

Пэрыяд вандроўнага промыслу пачынаецца з хвілінай, калі сябры сям'і выспэцыялізаваўшыся ў якойсь галіне працы, эманцыпуюцца й пачынаюць самастойна вясьці промысел. Ня маюць яны аднак сталых варштатаў працы й выконваюць работу пры помачы некалькіх прымітыўных прыладаў. Ходзяць ад хаты да хаты, ад сяла да сяла й выробляюць прадукты на месцы заказаў з уласнага сырца кансумэнта. Вандроўны промысел вяжыцца з профэсыянальным падзелам працы. Вандроўныя рамесьнікі становяцца фахоўцамі, утрымоўваючыміся са сваей спэцыяльнасьці. Вандроўны промысел пратрываў наагул да XIV ст., а ў агранічанай меры захаваўся і аж да нашых часоў.

Трэцяй фазай зьяўляецца рамясло. Вандроўнік-рамесьнік асядае з часам на месцы й закладае сабе невялікі станок працы. Мае ён ужо больш прыладаў і пэўны запас свайго сырца. Такім чынам становіцца малым капіталістам, хоць наемнікамі звычайна йшчэ не паслугойваецца, бо працуе пры помачы сям'і й вучняў. Прадукцыя рамесьніка ў гэтым часе аблічана толькі на рынак мясцовы, звычайна для найбліжэйшага места, і пераважна на заказ, а зусім мала на запас. Самастойны рамесьнік завецца майстрам. Рамесьленым жыцьцём кіруюць спэцыяльныя рамесьленыя арганізацыі—цэхі. Цэхі руйнуюць вандроўны промысел, які розьніцца ад рамясла фактычна толькі пад узглядам месца выконваньня працы й можа быць трактаваны разам у аднэй эпосе. Рамясло са сталым месцам працы праводзіць ужо дакладна фаховы падзел працы: ня толькі на паасобныя галіны, але й на стадыі ў дадзеных галінах прадукцыі. Фаза рамясла—характэрная для пазьнейшага сярэднявечча.

Чацьвертая фаза промыслу—гэта хатні промысел (папольску chałupnictvo, парасейску кустарніцтва). У гэтым часе разьвіцьцю промыслу надае тон гандляр, як пасярэднік паміж рамесьнікам і кансумэнтам ягоных прадуктаў. Мясцовы рынак пераладоўваецца таварамі — рамесьнік змушаны шукаць далейшых рынкаў збыту й гэткім спосабам пападае ў залежнасьць ад купца, які становіцца ягоным працадаўцам. Купец ня толькі прадае набытыя ад рамесьнікаў вырабы, але й дастаўляе ім сырца ды задатак грашыма на пакрыцьцё цаны прадукту, а часта нават прылады, пабіраючы за іх карыстань-

не плату. Такім чынам рамесьнік траціць кантакт са сваімі кліентамі. Наагул, у залежнасьці ад такіх ці іншых адносінаў паміж рамесьнікам і гандляром ці іншай асобай пасярэдняй, родзіцца многа відаў хатняга промыслу. Найгоршай формай хатняга промыслу ёсьць т. зв. sweating (ад ангельскага слова sweat—поціцца). Палягае ён на тым, што купец (накладчык) дае заказы рамесьнікам не беспасярэдня, а за пасярэдніцтвам трэцяй асобы, якая разьдзяляе працу паміж рамесьнікамі, што працуюць у сваей хаце або ў азначаным месцы, забірае ад іх гатовыя прадукты, выплачвае заработак і цягне з розьніцы цаны працы зыскі. Такая сыстэма промыслу родзіць вялікі вызыск. Рамесьнік пры такім парадку становіцца фактычна залежным ад капіталісты работнікам.

Зарысаваны падзел на работнікаў і капіталістаў аканчальна аформліваецца ў пятай фазе промыслу — пры паўстаньні мануфактуры, а пазьней фабрыкі. Зьмена гэта дакананалася такім спосабам: купец-накладчык заместа разьдзяляць працу рамесьнікам па іхных хатах, сабірае іх у спэцыяльную працоўню, у якой яны становяцца ўжо звычайнымі наймітамі.

Пакуль праца ў такой працоўні адбывалася без машын або пры помачы машын парушаных чалавечай сілай, датуль звалася яна мануфактурай З паяўленьнем у канцы XVIII ст. паравых машын мануфактура ператвараецца ў фабрыку. Фабрыка становіць апошнюю фазу эвалюцыі сучаснага промыслу.

Машына зрабіла рэвалюцыю ня толькі ў промысьле, але і ў цэлым гаспадарчым і грамадзкім жыцьці. Яна стварыла тэхнічны падзел працы: расклад працы на вялікую колькасьць частковых работ і завастрыла фаховы падзел працы. Пад уплывам машыны наступае разьдзел працы й капіталу, родзяцца дзьве варожыя клясы: капіталістаў, фабрыкантаў і работнікаў— пролетар'яту. Паўстае вызыск работнікаў—начная праца жанчын і дзяцей, безрабоцьце й розныя грамадзкія супярэчнасьці якія стараецца злагодзіць дзяржава. Наагул фабрыка стварыла мноства рознага характару важных праблемаў, якія ад часьці ўжо разьвязаны, а ад часьці й сяньня актуальныя.

Фабрычны промысел стаўся грозным канкурэнтам рамясла, якое ратуе толькі тое, што больш лічыцца з індывідуальнымі патрэбамі, падчас — калі фабрыка кіруецца больш стандарызацыяй вырабаў ці йнакш прадукуе пэўныя тыпы фабрыкатаў.

Фабрыка розьніцца ад рамясла галоўна большым накладам капіталу й працы, больш прадукуе на запас і ў большай меры залежыць ад гандлю.

Найнавейшыя здабычы тэхнікі даюць магчымасьць так-жа й рамяслу карыстаць з некаторых меншых машын, парушаных не залежнай ад чалавека энэргіяй, як прыкл. электрычнасьцю, і дзеля таго машына, як такая, не становіць розьніцы паміж промыслам фабрычным і рамесьленым. Апошнім часам заўважваецца нават адраджэньне рамясла, як адпарнейшага на эканамічныя крызысы, й паварот пад некаторымі ўзглядамі да сярэднявечных формаў.

На заканчэньне гэтага агляду, вяртаючыся да таго, што было сказана на пачатку, хацеў-бы выказаць сваё пажаданьне, каб гэты артыкул прычыніўся да ўзросту замілаваньня сярод беларускае моладзі да промыслу, рамясла, гандлю й агулам да большага зацікаўленьня справамі эканамічна-гаспадарчымі, каторыя зьяўляюцца асноўнымі ў жыцьці.

Ч. Н.

# З жыцьця японскіх студэнтаў

Японія—адзін з азіяцкіх краёў каторы ў 19 стагодзьдзі пачаў прымаць эўрапэйскую культуру і ў так кароткім часе асягнуў вялікія рэзультаты.

Японія мае цяпер 46 унівэрстытэтаў, з якіх 19 дзяржаўных. Студ'юе там прыблізна 70 тысяч студэнтаў. Самое Токіо мае 22 унівэрсытэты, але пад гэтую назову падпадаюць таксама розныя інстытуты і ўстановы з адным факультэтам.

Пастуніць на унівэрстытэт можна пасьля сканчэньня сярэдняй школы, званай „Кото-Гакко", каторая ёсьць асобная для хлапцоў і для дзяўчат.

Студыі трываюць ад трох да чатырох гадоў, пасьля якіх атрымоўваецца тытул „гакушы", што азначае „вучоны чалавек". Пасьля таго можна запісацца на курсы вышшай унівэрстытэцкай ступені, пасьля сканчэньня якіх можна атрымаць тытул доктара.

Найстаршым унівэрстытэтам у Японіі зьяўляецца дзяржаўны унівэрстытэт у Токіо, які мае 7 факультэтаў: праўны, мэдычны, тэхнічны, філёлёгічны, матэматычны, прыраднічы, агранамічны і інш.

Прадстаўляе ён цэлую унівэрсытэцкую дзялянку. Будынкі ўнівэрсытэту новыя, бо пабудаваныя пасьля 1922 г., —у іх месьцяцца вялікія выкладовыя залі, добра ўстроеныя ляборатoрыі й багатыя бібліатэкі.

Выгляд аднак іх надта понуры, на што ўплывае таксама аднастайнае чорнае адзеньне студэнтаў і адсутнасьць жанчынаў. Японскі студэнт знаходзіцца заўсёды пад вострай кантроляй, з пад якой нярэдка стараецца ўхіліцца, каб папрабаваць пазаунівэрсытэцкай свабоды, заглядаючы да начных бараў,—бязумоўна паза Токіо, бо ў Токіо наглядчыкі, маючыя добры нюх, могуць лёгка пазнаць нават без форменнай мужчынскай адзежы. На гэткія гулянкі могуць пазволіць бязумоўна толькі багацейшыя, якіх ёсьць ня так многа, бо большасьць студ. жыве надта скромна, самастойна зарабляючы на сваё ўтрыманьне.

У Токіо ёсьць спэцыяльны унівэрстытэт „Нігон"—для студэнтаў, што ўдзень заняты працай. Толькі дзякуючы вялікай энэргіі й надзвычайнаму высілку здабываюць яны вышэйшую асьвету, пры чым перамагаюць гэткія труднасьці, як вывучэньне эўрапэйскіх моваў.

Сярод японскай студ. моладзі няма іншых арганізацыяў, апрача спартовых, якія абыймаюць усіх студэнтаў унівэрстытэту й якія стаяць на высокім спартовым узроўні.

Апрача спорту, улюбленай разрыўкай японскіх студэнтаў ёсьць вандроўніцтва.

Дзякуючых таннай комунікацыі адведваюць яны падчас летніх канікулаў усе прыгажэйшыя куткі сваёй старонкі. Асабліва сільна разьвіта горская турыстыка.

Гэты кароткі нарыс дае хаця скромнае выбражэньне аб унівэрсытэтах і студэнтах краіны ўсходзячага сонца, каторая, хаця прыняла культуру ад Эўрапэйцаў, аднак перанёсшы на свой грунт надала ёй спэцыяльную афарбоўку, дапасаваную да псыхічных свомасьцяў японскага народу.